СОНЦА:
Усход, заход, даўжыня дня
Мінск — 6.47, 17.55, 11.08;
Віцебск — 6.39, 17.44, 11.05;
Магілёў — 6.37, 17.45, 11.08;
Гомель — 6.30, 17.45, 11.15;
Гродна — 7.00, 18.13, 11.13;
Брэст — 7.01, 18.13, 11.12.

МЕСЯЦ:
Маладзік 4 сакавіка.

ІМЯНІНЫ
Цімафея, Астапа, Георгія; Віктара, Ружы



# ЗВЯЗДА

6 САКАВІКА 1992 г. пятніца, № 48 [21826]



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50 кап.

## РОЗГАЛАС

### АДНЫМ ПАСОЛЬСТВАМ СТАНЕ БОЛЬШ

**Як паведаміў нашай рэдакцыі прадстаўнік пасольства Францыі ў Маскве Мішэль Пейсік, французы плануюць адкрыць свае прадстаўніцтва ў Мінску праз паўтара месяца. «Мы ведаем, што беларусы—працавіты і талерантны народ, таму ў бліжэйшай будучыні плануем наладзіць сталыя палітычныя, эканамічныя і іншыя сувязі з вашай рэспублікай», —паведаміў М. Пейсік.**

### РАЗЛІЧЫЛІСЯ, ЯК З ХРУШЧОВЫМ?

Амаль трыццаць гадоў рэдактарам ляхавіцкай «раёнкі» працаваў Вікенцій Шталь. Ордэна не заслужыў, але на падзяку за шматлікія турботы разлічваць мог несумненна. Аднак фінал працоўнай дзейнасці атрымаўся зусім не такі. Пайшоў Вікенцій Юльянавіч у водпуск (як вядома, рэдактар і ў адпачынку рэдактар) і раптам перастаў быць кіраўніком журналісцкага калектыву.

Паспрыялі беззаконню, як ні дзіўна, народныя дэпутаты раённага Савета, паспяшаўшыся зацвердзіць на сесіі новага рэдактара. В. Шталь збіраўся на пенсію, але толькі з сярэдзіны красавіка.

Хацелася б ведаць, што значыць закон для народных выбраннікаў Ляхаўшчыны? Трэба зазначыць, што адразу пасля «перавароту» творчых супрацоўнікаў «Ляхавіцкага весніка» папярэдзілі—іх пасады ў бліжэйшым будучым могуць скараціцца...

І яшчэ. Ці пачуе добрае слова ад заснавальнікаў газеты Вікенцій Шталь, і якога з двух рэдактараў лічыць сапраўдным? Па неправераных даных, В. Шталь падаў у суд на новага рэдактара І. Карпызу.

### ВЫРУЧЫЛІ КАМЕРСАНТЫ

БРЭСТ **(Ю. Фёдарава).** Электралямпавы завод апынуўся ў цяжкім становішчы. Згодна з дагаворам, ён адгрузіў сваю прадукцыю ў шэраг абласцей Расіі, а вось грошай так і не атрымаў. Сёння цяжка разлічваць на своечасовую аплату, асабліва ў рэгіёнах Каўказа. Палітычныя працэсы ў краіне моцна ўдарылі па кішэні электралямпавага. Працягнуў яму руку фінансавай дапамогі і падтрымкі Брэсцкі камерцыйны банк. Камерсанты пазычылі дзяржаўнаму прадпрыемству патрэбную суму грошай.

### ЗНОЎ ТЭЛЕСУСТРЭЧА З С. ШУШКЕВІЧАМ

**У гэту суботу ў 19.25 на Беларускім тэлебачанні адбудзецца чарговая сустрэча ў прамым эфіры Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіча з тэлегледачамі.**

**Размова пойдзе аб сённяшняй сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы, маючай адбыцца 9-й сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі, першачарговых задачах, якія павінны вырашыць дэпутаты: аб прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці, аб ходзе зямельнай рэформы і, безумоўна, рэарганізацыі беларускага парламента і яго Прэзідыума.**

**Рыхтуйце свае пытанні, паважаныя тэлегледачы! Тэлефоны ў студыі, па якіх можна пазваніць і задаць пытанне, будуць аб'яўлены ў час перадачы.**

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ.**

### 03: І НЕ ХУТКАЯ, І НЕ ДАПАМОГА

**Старшыня прафкома Пінскага рачнога порта Мікалай Муга прыехаў наведаць сваю маці ў вёску Крывічы. І тут у яго раптоўна здарыўся прыступ бранхіяльнай астмы. Суседзі кінуліся да тэлефона званіць у «хуткую дапамогу»: чалавеку вельмі дрэнна, тэрмінова патрэбен урач. На тым канцы провада доўга дапытваліся, што значыць «дрэнна». У рэшце рэшт дзяжурная паведаміла, што бензіну няма і машына выехаць не можа. Бяда ж не прымусіла сябе чакаць: Муга памёр.**

**На гарадской станцыі «хуткай дапамогі», вядома ж, перажываюць, але просяць зразумець і іх становішча: увесь люты і пачатак сакавіка транспарт з лічбамі «03» сядзеў на «галодным пайку», бензіну хапала толькі на паўзмены, астатні час машыны стаялі на прыколе. У раён брыгады выязджалі толькі ў экстрэмальных сітуацыях: пры родах і аўтааварыях. Цяжкі прыступ рачніка не ўвайшоў у гэты пералік. І вось вынік.**

**Ужо на наступны дзень, калі аб надзвычайным здарэнні ўсе загаварылі, кіраўніцтва гарвыканкома тэрмінова дало каманду забяспечыць поўную патрэбнасць станцыі «хуткай дапамогі» ў гаручым. Чаму, каб выратаваць іншых, некаму трэба абавязкова памерці?**

### НЕЗАЛЕЖНУЮ ЛІТВУ ПАДТРЫМАЕ... САДРУЖНАСЦЬ

Як ужо паведамляла інфармацыйнае агенцтва «БелаПАН», 29 лютага 1992 года ў Вільні адбыўся ўстаноўчы з'езд Садружнасці Усходняй Літвы. У яго працы прынялі ўдзел прадстаўнікі звыш 30 грамадскіх згуртаванняў, у тым ліку трох беларускіх — клуба аматараў беларускай народнай творчасці «Сябрына», Таварыства беларускай культуры ў Літве і рэгіянальнай Рады Беларускага народнага фронту «Адраджэнне».

Мэта наватўворанага грамадскага аб'яднання — падтрымаць незалежную дэмакратычную Літоўскую Рэспубліку, дапамагчы Вярхоўнай Радзе, ураду рэспублікі ў вырашэнні сацыяльных, эканамічных, экалагічных і іншых праблем, садзейнічаць развіццю нацыянальных культур, абараняць правы грамадзян, гарантуемыя законамі Літоўскай Рэспублікі і міжнароднымі пагадненнямі.

Ад імя Каардынацыйнай рады беларускіх згуртаванняў у Літве слова меў Янка Мятлеўскі. У кароткай, але змястоўнай прамове ён расказаў прысутным пра культурную і гістарычную спадчыну беларусаў на Віленшчыне, выказаў погляды Каардынацыйнай рады на справу адраджэння існаваўшых у Вільні ў міжваенны час беларускай гімназіі і музея. Сказаў Я. Мятлеўскі і пра неабходнасць поўнай перадачы на баланс Таварыства трох дамкоў па вуліцы Жыгімонта, якія раней належалі беларускім ксяндзам-марыянам, а таксама ўзмацнення існуючых на літоўскім радыё і тэлебачанні беларускіх тэле- і радыёслужбаў, увядзення беларускага прадстаўніцтва ў Вярхоўнай Радзе Літоўскай Рэспублікі, забеспячэння нармальных сацыяльна-эканамічных, у тым ліку жыллёвых умоў выкладчыкам, гісторыкам, музейным і іншым работнікам з асяродку беларускай культуры ў Літве.

Для многіх з прысутных гэтае выступленне было нечаканым, таму не адразу і не ўсе ўсё зразумелі. Тым больш, што зроблена яно было па-беларуску.

Распачалася дыскусія, канец якой паклала выступленне дэпутата Вярхоўнай Рады Літоўскай Рэспублікі Юозаса Дрынгяліса, які падзяліў занепакоенасць беларусаў лёсам свайго адраджэння і абяцаў усялякую падтрымку.

### НАЗВАЎСЯ ГРУЗДОМ...

Шэсць сем'яў, якія пражывалі ў Рызе і згадзіліся на выезд за межы Латвіі, атрымаюць кампенсацыі ў суме ад 14 да 29 тысяч рублёў. Адначасова ў іх пашпартах будзе прастаўлены штамп, які пазбаўляе іх магчымасці паўторнай прапіскі ў Латвіі.

**БелаПАН.**

ЖЫЦЦЁ ЧАЛАВЕЧАЕ

## ІХ ЛЁС, ПАКУТЫ І ЛЮБОЎ

**(Фотазамалёўка з Рэспубліканскага інтэрната ветэранаў вайны і працы.)**

**Старасць раўняе ўсіх. У ціхіх інтэрнатаўскіх калідорах яны сустракаюцца як даўнія знаёмыя: былыя рабочыя, артысты, калгаснікі, афіцэры, настаўнікі... Іх тут сто пяцьдзесят**





**адзін чалавек. Пяцёра нядаўна памерлі. Сустрэнуцца, пагавораць пра агульнае — лекі, надвор'е. А потым прысядуць каля вокнаў і доўга маўчаць — кожны пра сваё.**

**Ой, не кажыце, што на людзях і канец жыцця сустракаць весялей. Куды мацней баліць ад адзіноты сярод такіх жа людзей, ад хвароб сярод белых халатаў, ад пакалечанага лёсу сярод зычлівасці і спагады.**

**У пакоі Марыі Захараўны Івановай вісяць чатыры карціны — яе галоўнае багацце. На сваёй інваліднай калясцы яна паціху дабіраецца да кожнай, доўга ўглядаецца ў фарбы. Для яе адной захавалі гэтыя карціны цеплыню рук даўно памёршага мужа. Вось ён намаляваў букет, які падараваў ёй. Вось лясная сцяжынка, па якой разам хадзілі. А гэты пейзаж быў відаць з пакоя, дзе яны жылі. Карціны — нібы маленькія акенцы ў мінулае.**

**У пакоі Надзеі Пятроўны Гусаковай на самым пачэсным месцы — стары фотаздымак. На скураным шлеме блішчаць шафёрскія акуляры, пухлыя вусны кранае ўсмешка. Шэсцьдзесят два гады назад яна ліха круціла баранку аўтамабіля, ганяла на ім па палях і прасёлках. Потым была вайна, работа ў шпіталі.**

**У гэтым інтэрнаце кожны жыве сваім мінулым. Якім бы яно ні было — ад яго не адракаюцца. Тым больш, што рэчаіснасць многіх пазбавіла будучыні. Гэта толькі ў маладосці можна руйнаваць нажытае, вяртацца да вытокаў. Час старасці цячэ толькі ў адным напрамку.**

**Няхай будуць благаслаўлёны іх лёс, пакуты і любоў.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

## КРЫХУ ЦІШЭЙ, ПОЕЗД... ДА АБРЫВУ АДЗІН ПЕРАГОН

Падобных зрываў даўно не ведала наша эканоміка. Спад вытворчасці за першы месяц года, як вядома, перавысіў 15 працэнтаў да ўзроўню леташняга, таксама не надта ўдарнага студзеня. А вось факты, з якіх гэтыя самыя працэнты склаліся. «На чатырохдзённы рэжым работы перайшоў завод «Лідсельмаш». Выхадным днём стала яшчэ і пятніца. Гэта дае магчымасць пакуль што не скарачаць людзей, але прывядзе да значнага зніжэння выпуску прадукцыі. Падобная сітуацыя складваецца на заводзе электравырабаў, іншых прадпрыемствах горада. Забеспячэнцы вяртаюцца з камандзіровак па краінах СНД з пустымі рукамі».

«З-за адсутнасці сыравіны рэзка скараціў адгрузку прадукцыі спажыўцам гарбарны завод у Гатаве. Шматлікія абутковыя прадпрыемствы рэспублікі спрабуюць узамен натуральнай скуры выкарыстоўваць тэкстыль, дэрмацін і іншыя замяняльнікі».

«Большасць мясакамбінатаў адмаўляюцца прымаць жывёлу на перапрацоўку — іх халадзільнікі забіты, таму што гандаль не бярэ мяса ў рэалізацыю. Ва ўмовах вострага дэфіцыту кармоў зніжэнне попыту на дарагую сельгаспрадукцыю можа прывесці да спантаннага скарачэння пагалоўя, якое і без таго значна скарацілася ў многіх раёнах».

А вось абагульненыя даныя па Мінску, атрыманыя ў статупраўленні горада. У студзені недададзена прадукцыі амаль на 1,4 млрд. рублёў. Скарацілі вытворчасць 40 працэнтаў прадпрыемстваў горада, у тым ліку такія гіганты, як МТЗ, МАЗ, «Гарызонт», камвольны камбінат, заводы — маторны і электратэхнічны, абутковае аб'яднанне «Прамень». Партнёры не дачакаліся з Мінска дагаворных паставак на суму 68 мільёнаў рублёў.

А цяпер давайце перавядзём дух і паспрабуем паглядзець на імклівы рух кур'ерскага поезда нашай эканомікі, які ляціць у бездань, як бы збоку, суцяшаючы сябе тым, што не мы фарміравалі састаў, выбіралі яму маршрут і назначалі брыгаду машыністаў. Адначасова пацікавімся думкай спецыялістаў аб прычынах сённяшняга лавіннага спаду вытворчасці, іх прагнозамі на будучыню і мерамі, якія здольны, на іх погляд, крута змяніць справу да лепшага.

Цяжка сказаць сёння, якія эканамічныя дакументы будуць прыняты на наступнай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў Садружнасці ў Кіеве, ці будзе зноў у іх радок «прыняць неабходныя нарматыўныя акты», вельмі падобны на нядаўнія сацыялістычныя абавязацельствы, якія ўсе з натхненнем прымалі і гэтак жа дружна ігнаравалі. Да гэтага ж часу не створаны міждзяржаўныя інстытуты, якія ўзялі б на сябе і каардынацыю, і, галоўнае, кантроль за выкананнем прымаемых сумесных рашэнняў.

Хто і як можа сёння спагнаць кампенсацыю за нанесеныя страты ад недапаставак? Што павінны адказаць мінскія аўтазаводцы яраслаўскім маторабудаўнікам, якія паставілі іх на калені і патрабуюць за рухавікі мяса, масла, тэлевізары, мэблю і ліставую сталь, якую Беларусь ніколі не выпускала? Пытанні, пытанні...

— Няма, на жаль, адказу на іх і ў мяне, — сказаў намеснік старшыні Дзяржкамітэта Рэспублікі Беларусь па прамысловасці Уладзімір Галко, якога мы папрасілі пракаменціраваць лютаўскую «пагоду» індустрыі рэспублікі.— Надзеі на двухбаковыя дагаворы, без усякага сумнення, не апраўдваюцца, як не даюць пакуль што рэальных вынікаў і пагадненні ў рамках СНД. Ствараецца ўражанне, што поціскі рук, якімі абменьваюцца паўпрэды суверэнных рэспублік на верхніх паверхах, застаюцца невядомымі для паверхаў ніжэйшых. Вось наглядны прыклад: аб пагадненні, падпісаным Б. Ельцыным і С. Шушкевічам аб «празрыстых межах» — аб бесперашкодным праходжанні тавараў і грузаў, як аказалася, не ведаюць у расійскай глыбінцы і мясцовыя ўлады па-ранейшаму дыктуюць вытворцу сваю волю, устанаўліваюць уласныя адрасы і ўмовы вывазу прадукцыі. Я гавару аб Расіі таму, што гэта галоўны пастаўшчык металу, нафты, драўніны, іншых відаў сыравіны, што выкарыстоўваецца індустрыяй Беларусі.

Мы падтрымліваем цесныя дзелавыя сувязі з калегамі з аналагічнага расійскага камітэта, але, паўтараю, нашы сумесныя намаганні не прыносяць жаданых вынікаў. Выхад мне бачыцца ў непасрэдных, прамых кантактах працоўных калектываў. Трэба ісці да партнёраў, шукаць агульную мову, як бы гэта ні было цяжка, а часам і зневажальна. Іншага шляху пакуль што няма — рынак не сфарміраваны, манапалізм не разбураны. Мы вымушаны прайсці праз гэтыя выпрабаванні, калі хочам зберагчы калектывы, захаваць жыццяздольнасць нашай эканомікі і разлічваем праз год-два выбрацца з глыбокай бездані крызісу.

Ацэнім шчырасць У. Галко, які не спрабаваў перабольшыць ролю адміністрацыйных, кіруючых структур у пошуку выратавальных крокаў ад краю эканамічнага абрыву. Яны ахвотна прадастаўляюць сёння поўную свабоду дзеянняў самім прадпрыемствам. Але ці не сведчанне гэта таго, што падобныя органы або зусім сёння не патрэбны, або павінны прыняць на сябе іншыя, у поўнай меры адпавядаючыя рыначным адносінам функцыі? Прапаведуючы ранейшы сацыялістычны лозунг «Дзяліць і размяркоўваць», яны аб'ектыўна застаюцца без спраў. Размяркоўваць жа, на жаль, няма чаго, настаў час здабываць. Карпатлівай працай, прафесіяналізмам і ведамі.

**Яўген ХВАЙНІЦКІ.**

## ЗАБЕСПЯЧЭННЕ ДРЭННАЕ, РЭАЛІЗАЦЫЯ ТАКСАМА. А МАРОЖАНАЕ ПАДЗЕШАВЕЛА

**Недахватам прадуктаў харчавання сёння беларусаў не запалохаеш. Ёсць на паліцах магазінаў і мяса, і малако, і сыры, і масла, і хлеб... Увогуле, калі ў чалавека кішэнь адцягваюць вялікія грошы — галодным не застанецца. Але як заўсёды ў нас атрымліваецца, калі нешта ёсць, то з іншага боку чагосьці не хапае.**

Так і зараз: прадпрыемствы, змагаючыся з цяжкасцямі, з горам папалам прадукцыю выпускаюць. Але цэны, за якія потым спрабуюць рэалізаваць яе, скажам прама, пакупнікоў далёка не задавальняюць. Вось і атрымліваецца палка з двума канцамі: цяжкае становішча з забеспячэннем, а потым з-за высокіх цэн — з рэалізацыяй. Не з'яўляецца выключэннем у гэтым сэнсе і маслазавод у Навагрудку.

— Дзякуй Богу, рабочыя ў нас усё разумеюць, — кажа намеснік дырэктара па эканоміцы Ніна Мартысюк. — У апошні час са спазненнем выдаём зарплату: адсутнічаюць наяўныя грошы ў банку. А яны да гэтага ставяцца спакойна. Што ж датычыцца забеспячэння і рэалізацыі, то тут справы такія ж, як і на большасці прадпрыемстваў Беларусі — цяжка. Маслатары, фальгі, пергаменту не хапае. Маслатару пастаўлялі з Рахава (Украіна), фальгу — з Арменіі. Зараз эканамічныя сувязі парушаны, і як вынік — недахват гэтых матэрыялаў. Падае аб'ём закупак сыравіны. Калі параўноўваць з мінулым годам, сёлета аб'ём складае толькі 80 працэнтаў. З рэалізацыяй таксама цёмны лес: масла каштуе 92 рублі за кілаграм, сыр «Паўночны», які робяць на нашым маслазаводзе, — 78. Мы нават вымушаны былі скінуць цэны на марожанае, якое за чатыры рублі амаль ніхто не купляў. Зараз яно ўжо каштуе тры, але ўсё роўна залежваецца.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## ХАТНЯЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

### Касметычны рамонт: які колер выбраць?

**Пры касметычным рамонце жылля перш за ўсё варта падумаць аб каляровай гаме памяшканняў. Беспарадкавае змяшанне колераў выклікае адчуванне хаосу, таму што кожны колер мае сваё псіхалагічнае ўздзеянне.**

**Чырвоны** дзейнічае ўзбуджальна, аказвае кароткачасовы стымулюючы эфект, пасля чаго надыходзяць стома і падаўленасць. Ён дамінуе перад любым іншым колерам, аднак яго ўмераная прысутнасць надае інтэр'еру ўтульнасць і інтымнасць.

**Аранжавы** — «цёплы» колер, але ставарае напружанасць. Яго можна выкарыстаць для абмежаваных паверхняў і стварэння кантрасных эфектаў.

**Жоўты** асабліва падыходзіць для невялікіх памяшканняў з паўночным асвятленнем. Вельмі светлыя яго адценні на падлозе выклікаюць адчуванне ненадзейнасці і ненатуральнай лёгкасці.

**Карычневы** аказвае станоўчае псіхалагічнае ўздзеянне. У спалучэнні з іншымі колерамі надае ім пастэльны нюанс. Падыходзіць для падлогі, а таксама для афарбоўкі асобных сцен ці якой-небудзь часткі ў сонечных, добра асветленых памяшканнях.

**Сіні** колер надае інтэр'еру «сур'ёзнасць», а цёмна-сіні — строгасць і нават урачыстасць, асабліва ў камбінацыі з белым. Рэкамендуецца выкарыстоўваць яго для невялікіх паверхняў ці пакрыцця падлогі, лепш за ўсё ў спалучэнні з мэбляй светлага дрэва.



**Блакітны** колер падлогі параджае адчуванне холаду.

**Зялёны** мае аптымальную псіхалагічную характарыстыку — павышае працаздольнасць. Яго можна выкарыстаць у аддзелцы любога памяшкання.

**Фіялетавы** навявае сум, але ў якасці акцэнту ці ў абіўцы мэблі ўносіць нюанс урачыстасці, параднасці.

**Шэры,** калі ён прысутнічае самастойна, з'яўляецца нейтральным колерам, а ў камбінацыі з насычанымі колерамі змякчае іх кантраснасць. Падыходзіць для афарбоўкі сцен і столі там, дзе астатнія элементы інтэр'ера — абіўка мэблі, дэкаратыўныя тканіны — рознай каляровай гамы. Ён як бы аб'ядноўвае іх.

**Чорны** выгадна адцяняе ўсе астатнія колеры, але, займаючы вялікія паверхні, аказвае прыгнятальнае ўражанне. Дапушчальны ў асобных дэталях інтэр'ера ці як іх каляровы штрых.

**Белы** падкрэслівае кантрасты і надае абстаноўцы лёгкасць. Рэкамендуецца для сцен і столі слабаасветленых пакояў, звернутых на поўнач. Падлогу ў такім разе трэба зрабіць цямнейшай.

**ПРЫ ДАПАМОЗЕ КОЛЕРУ** можна аптычна скарэкціраваць прастору. Вузкі доўгі пакой здаецца шырэйшым і больш прасторным, калі яго тарцавыя сценкі больш цёмнага колеру, чым прадоўжныя. Фрызы ў верхняй частцы сцяны візуальна змяншаюць вышыню памяшканняў і не рэкамендуюцца ў сучасных кватэрах масавай забудовы.

**ПРЫ АФАРМЛЕННІ** прыхожых, калідораў, ванных, туалетных, кладовак трэба ўлічваць уздзеянне электрычнага асвятлення: пад яго ўплывам чырвоны колер цямнее, аранжавы здаецца рыжым, блакітны набывае зеленавата-шэрае адценне, карычневы ружавее, сіні і фіялетавы згушчаюцца і набываюць чырванаватае адценне.



**НІШЫ, ВЫСТУПЫ** ў месцах праходжання пячных труб, нясучых калон пажадана афарбаваць так, каб яны ўспрымаліся як натуральныя элементы інтэр'ера. Так, нішы можна падкрэсліць колерам, кантраструючым са сценамі. Для сучаснай кухні, якая звычайна вельмі мініяцюрная па памеру, падыходзяць светлыя, свежыя колеры — жоўты, жоўта-зялёны, белы. Аранжавы і чырвоны не рэкамендуюцца, хіба што для зусім невялікіх плоскасцей.

### Рэцэпты для мэблі

**ПАЦЯМНЕЛУЮ І ЗАПЫЛЕНУЮ НЕПАЛІРАВАНУЮ** (зробленую «пад воск») мэблю перад чысткай рэкамендуецца злёгку прамыць цёплай вадой з мылам і насуха выцерці мяккай анучкай. Затым прыгатаваць мастыку: пакласці ў бутэльку з шырокім горлам дробна наструганы воск і заліць яго шкіпінарам. Бутэльку паставіць у каструлю з гарачай вадой (ваду трэба дабаўляць паступова, каб бутэлька не трэснула). Калі воск расплавіцца, бутэльку некалькі разоў трасянуць, каб састаў добра перамяшаўся.

Атрыманую аднародную масу раўнамерна, тонкім слоем, нанесці на дрэва, а праз дзень-два нацерці суконнай анучкай.

Калі няма воску, можна ўзяць добры абутковы



крэм жоўтага ці карычневага колеру і, развёўшы яго цёплым шкіпінарам, апрацоўваць мэблю, як сказана вышэй.

**ДЛЯ ПРАЦІРАННЯ І АСВЯЖЭННЯ ПАЛІРАВАНАЙ МЭБЛІ** трэба набыць у магазіне гаспадарчых тавараў спецыяльную вадкасць «Навінка», «Паліроль». Калі такой няма, можна купіць у аптэцы лапуховы алей.

Спачатку старанна абцерці мэблю чыстай сухой анучкай. Накапаць некалькі кропляў лапуховага алею на вату і, загарнуўшы яе непатрэбнай шкарпэткай ці іншай мяккай рэдкай тканінай так, каб алей толькі злёгку выступаў, праціраць тампонам паверхні. Пры гэтым неабходна сачыць, каб на іх не заставалася алею, інакш на яго будзе насядаць пыл.

Белы круг на паліраванай паверхні ад гарачага прадмета можна вынішчыць, працёршы яго спіртам з алеем. Церці трэба чыстай шарсцяной анучкай кругавымі рухамі, пакуль пляма не знікне.

Іншы раз на паверхні фанераванай мэблі з'яўляюцца невялікія ўздуцці, пухіры. Адбываецца гэта таму, што пачынае адставаць фанера, якой мэбля аклеена. Калі пад уздуццем захаваўся клей, то дастаткова, наклаўшы некалькі слаёў паперы, адпрасаваць гэта месца негарачым прасам. Клей растопіцца і прыцягне адстаўшую фанеру.

Для выпраўлення невялікага ўздуция замест праса можна накласці добра нагрэтую металічную лыжку.

Калі клею пад уздуццем няма, трэба зрабіць невялікі пракол ці надрэз уздоўж валокнаў дрэва, упусціць у адтуліну крыху клею і прасаваць, як сказана вышэй.

На паліраванай мэблі пры гэтым можа застацца белы след. Яго трэба запаліраваць, як указана ў адпаведнай парадзе.

### Парады на ўсякі выпадак

● **Цвёрдае адваранае мяса** стане мяккім, калі пасля зняцця з булёну пены да яго дадаць сталовую лыжку гарэлкі.

● **Разрэзаная цыбуліна** не засохне, калі пакласці яе на талерку, пасыпаную соллю (разрэзам уніз).

● **Каб усю зіму мець зеляніну,** якая не траціць смаку, паху, трэба восенню зрабіць нарыхтоўку зеляніны пятрушкі і маладога кропу. Зеляніну вымыць і пасушыць пры дапамозе чыстага ручніка. Здрабніць і пакласці ў маленькія слоічкі, старанна ўціскаючы. Слоічкі закрыць і паставіць у маразільную камеру.

АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

**Мінула ўжо больш за паўгода з таго жнівеньскага ранку, што ў адно імгненне ўзрушыў краіну, рэхам адгукнуўся па ўсёй планеце. Водгулле тых навальнічных падзей не заціхае і сёння, бударажыць свядомасць мільёнаў людзей. Па даручэнню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь рэспубліканская пракуратура праводзіла праверку аб дачыненні КПБ да жнівеньскага путчу і аб падтрымцы грамадска-палітычнымі аб'яднаннямі, органамі дзяржаўнай улады і кіраўніцтва рэспублікі Дзяржаўнага камітэта па надзвычайнаму становішчу. Мы паведамлялі ўжо чытачам, што следства па гэтай справе закончана. Адначасова папрасілі начальніка следчага аддзела па асабліва важных справах Пракуратуры Рэспублікі Беларусь Валерыя Собалева больш падрабязна расказаць пра ход следства і тых асоб, што ў той ці іншай меры мелі дачыненне да гэтай справы.**

# З вялікага грому...

— Ужо на наступны пасля путчу дзень, — гаворыць Валерый Васільевіч, — кіраўнікі Кампартыі рэспублікі выступілі са зваротам Бюро ЦК КПБ да камуністаў, усіх працоўных рэспублікі, у якім выказалі недвухсэнсавую падтрымку дзеянням Дзяржаўнага камітэта па надзвычайнаму становішчу, створанаму ў парушэнне Канстытуцыі СССР. Разам з тым трэба канстатаваць, што гэты зварот з'ўляецца палітычным дакументам, палажэнні якога юрыдычнай ацэнцы не падлягаюць. У ім выкладзены думкі групы работнікаў ЦК КПБ на падзеі ў Маскве ў адпаведнасці з іх поглядамі. А ў Дэкларацыі правоў і свабод чалавека запісана, што «ніхто не можа быць падвергнуты праследаванню за свае перакананні». Адсутнічае таксама састаў злачынства і ў дзеяннях работнікаў сродкаў масавай інфармацыі, што апублікавалі дакументы ГКЧП і прадаставілі эфір для іх абнародавання, бо яны дзейнічалі ў адпаведнасці з патрабаваннямі Закона СССР «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі».

**— А як паводзілі сябе ў тыя дні асобныя лідэры Кампартыі рэспублікі?**

— Усе без выключэння члены Бюро ЦК КПБ і члены ЦК КПБ, якія былі дапрошаны па гэтай справе, не далі паказанняў аб іх дачыненні да змовы і заявілі, што падзеі 19—21 жніўня 1991 года для іх былі нечаканымі. Так, першы сакратар ЦК КПБ А. Малафееў сказаў: «Аб тых падзеях я даведаўся 19 жніўня 1991 года з радыёпаведамлення. Іншай інфармацыі пра гэтыя падзеі ў мяне не было». Тое ж самае гаварылі сакратары ЦК КПБ А. Камай, В. Ціхіня, А. Зеляноўскі і іншыя.

А. Малафееў паказаў, што, прыбыўшы на работу пасля 8 гадзін раніцы 19 жніўня, ён вырашыў пазваніць намесніку Генеральнага сакратара ЦК КПСС Івашку, які яму адказаў, што нядаўна перанёс аперацыю на шчытападобнай залозе, у сувязі з чым знаходзіўся на рэабілітацыі ў Падмаскоўі, і пра падзеі ў Маскве нічога не ведае. Параіў звярнуцца да сакратара ЦК КПСС Шэніна, які ў адсутнасць яго і Генеральнага сакратара ЦК КПСС Гарбачова заставаўся ў Цэнтральным Камітэце за старшага. Аднак, паводле слоў Малафеева, і Шэнін нічога канкрэтнага яму не паведаміў.

**— А як аднесліся да спробы дзяржаўнага перавароту праваахоўныя органы?**

— Не ўчынілі крымінальных дзеянняў работнікі Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, якія не толькі не прынялі да выканання дакументаў антыканстытуцыйнага Дзяржаўнага камітэта аб надзвычайным становішчы, але і адмовіліся выконваць загад старшыні КДБ СССР В. Кручкова аб прывядзенні войск і арганізацый дзяржаўнай бяспекі ў павышаную баявую гатоўнасць і разгортванні ў сувязі з гэтым адпаведных сіл і сродкаў.

Між тым, некаторыя кіраўнікі МУС Рэспублікі Беларусь прынялі да выканання аб'яўленыя па радыё і тэлебачанню асобныя палажэнні дакументаў ГКЧП. З гэтай мэтай яны ў першай палавіне дня 19 жніўня далі распараджэнне разгарнуць работу аператыўнага штаба, які закліканы забяспечваць грамадскі парадак пры правядзенні масавых мерапрыемстваў з удзелам вялікай колькасці грамадзян, а таксама пры надзвычайным становішчы. Аператыўны штаб неадкладна сфарміраваў зводны атрад, прадугледзеў выдачу яму аўтаматычнай зброі і спецыяльных сродкаў і даручыў медыцынскаму аддзелу «падрыхтаваць службу ў выпадку ўзнікнення сітуацый», а гаспадарчаму аддзелу — «тэрмінова прапрацаваць пытанні, звязаныя з размяшчэннем і харчаваннем асабовага саставу міністэрства ў выпадку яго пераводу на казарменнае становішча». Ва ўсе абласныя ўпраўленні ўнутраных спраў была накіравана шыфртэлеграма, згодна з якой уводзіліся асноўныя элементы арганізацыі нясення службы работнікамі міліцыі ва ўмовах надзвычайнага становішча. У ёй, у прыватнасці, органам унутраных спраў рэспублікі прадпісвалася сваю дзейнасць будаваць у адпаведнасці з Законам СССР «Аб прававым рэжыме надзвычайнага становішча» і пастановай № 1 ГКЧП. Але і ў дзеяннях кіраўніцтва МУС Рэспублікі Беларусь следства не ўстанавіла саставу злачынства, а таму крымінальная справа спынена.

Што датычыцца Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, то ў гэтай установе не далі крытычнай ацэнкі дзеянням путчыстаў. Намеснік міністра У. Лоўчы 20 жніўня накіраваў у абласныя ўпраўленні юстыцыі тэлеграму ад імя Л. Дашука (папярэдне пра гэта не давёўшы да ведама міністра і не атрымаўшы згоды на яе падпісанне) аб тым, што неабходна ў «сувязі з увядзеннем надзвычайнага становішча ў асобных рэгіёнах СССР прыняць неадкладныя меры па падтрыманню арганізаванасці, дысцыпліны і парадку ў рабоце кожнага народнага суда і ўстаноў юстыцыі, а таксама арганізаваць дзяжурства народных суддзяў у выхадныя дні».

На наступны дзень у Мінюсце была праведзена калегія, на якой абмяркоўваліся адмена абмежаванняў на вываз прамысловых і гандлёвых тавараў за межы рэспублікі, як гэтага і патрабавала пастанова № 1 ГКЧП, а таксама ўвядзенне забароны на забастоўку работнікаў адвакатуры рэспублікі, што была аб'яўлена раней. Ніякага канкрэтнага рашэння па гэтых пытаннях на калегіі прынята не было. Аднак У. Лоўчы накіраваў у ніжэйстаячыя ўстановы юстыцыі пастанову, быццам бы прынятую калегіяй, у якой было запісана, што Міністэрствам юстыцыі прынята рашэнне аб зняцці абмежаванняў на вываз тавараў за межы рэспублікі, што сведчыць аб перавышэнні ім сваіх правоў і паўнамоцтваў, бо рашэнне аб увядзенні падобных абмежаванняў прымалася вышэйстаячымі органамі дзяржаўнай улады.

Следства зрабіла вывад, што асобныя кіраўнікі міністэрства перавысілі свае правы і паўнамоцтвы, аднак істотнай шкоды ні інтарэсам грамадзян, ні дзяржаўным і грамадскім інтарэсам не нанеслі, у сувязі з чым крымінальная справа ў адносінах да іх спынена з-за адсутнасці саставу злачынства.

Не ўчынялі ніякіх проціпраўных дзеянняў кіраўнікі Пракуратуры Рэспублікі Беларусь. Следствам не ўстаноўлена, што дакументы ГКЧП імі былі прыняты да безумоўнага і няўхільнага выканання. Не выяўлена і сувязей паміж імі і змоўшчыкамі.

У працэсе расследавання крымінальнай справы правяраўся эпізод, звязаны з правядзеннем 20 жніўня нарады кіраўнікоў праваахоўных органаў рэспублікі і горада Мінска ў начальніка Упраўлення па пытаннях правоў грамадзян, грамадскай бяспекі і абарончай работы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Г. Данілава. Устаноўлена, што нарада была склікана з мэтай забяспечыць грамадскі парадак, не дапусціць проціпраўных выступленняў і ўвядзення надзвычайнага становішча на тэрыторыі рэспублікі. Крымінальная справа па гэтаму эпізоду спынена.

Не выяўлены састаў злачынства і ў дзеяннях старшыні Гомельскага абласнога Савета народных дэпутатаў М. Вайцянкова, які вымусіў работнікаў незалежных ад яго органаў — пракурораў Гомельскай вобласці і горада Гомеля М. Капульцэвіча і Г. Трубачкіна прынесці незаконны пратэст на рашэнне прэзідыума Гомельскага гарадскога Савета народных дэпутатаў ад 20 жніўня, які з'яўляўся па сутнасці палітычным дакументам і выражаў адносіны членаў прэзідыума да змовы ў Маскве і стварэння антыканстытуцыйнага ГКЧП. Разгледзеўшы гэты пратэст 21 жніўня на пасяджэнні прэзідыума абласнога Савета — органа, неправамоцнага прымаць рашэнні адносна прэзідыумаў ніжэйстаячых Саветаў народных дэпутатаў, і прызнаўшы несапраўднымі і не падлягаючымі выкананню пункты №№ 2 і 4 рашэння прэзідыума Гомельскага гарсавета, М. Вайцянкоў перавысіў свае службовыя паўнамоцтвы старшыні абласнога Савета. Аднак яго проціпраўныя дзеянні істотнай шкоды не нанеслі ні інтарэсам грамадзян, ні дзяржаўным і грамадскім інтарэсам. Папярэдняе следства гэтыя дзеянні М. Вайцянкова кваліфікавала як дысцыплінарны ўчынак, як і беспрынцыповыя дзеянні пракурораў М. Капульцэвіча і Г. Трубачкіна, якія падрыхтавалі незаконны пратэст і далажылі яго ў органе, неправамоцным прыняць рашэнні па гэтаму пратэсту. У сувязі з гэтым крымінальная справа па даных фактах з-за адсутнасці саставу злачынства спынена.

Падставай для спынення крымінальнай справы, апрача вышэй названых прычын, з'явілася таксама тое, што ніхто з кіруючых работнікаў рэспублікі (хоць некаторыя з іх на словах або ўяўна падтрымалі ГКЧП ці занялі ў адносінах да яго пазіцыю чакання) не ўчынілі рэальных і канкрэтных дзеянняў, накіраваных на захоп улады ў рэспубліцы. Гэта сведчыць аб тым, што названыя асобы не рабілі замаху на існуючую ўладу. У іх дзеяннях адсутнічаў таксама прамы намер здзейсніць дзяржаўны пераварот. Таму нельга прызнаць гэтых асоб памагатымі путчыстаў — ніводзін з іх, як устаноўлена следствам, не садзейнічаў змоўшчыкам парадамі, указаннямі, прадастаўленнем сродкаў ці ліквідацыяй нейкіх перашкод і г. д.

Такім чынам, матэрыяламі крымінальнай справы ўстаноўлена, што ў час антыканстытуцыйнага дзяржаўнага перавароту ў дзеяннях або бяздзеянні асоб, памянёных вышэй, адсутнічае састаў якіх-небудзь учынкаў, што патрабуюць крымінальнага пакарання, а таму крымінальная справа ў адпаведнасці з артыкулам 5 пункта 2 КПК Рэспублікі Беларусь спынена.

**— Значыць, як кажуць у народзе: з вялікага грому — малы дождж?**

— Я следчы, а не палітык. І ў мае абавязкі не ўваходзіць даваць палітычныя ацэнкі меўшым месца падзеям.

**Гутарыў Уладзімір ГОЙТАН.**

# НОЧ ДЗЕЛАВОГА ЧАЛАВЕКА

**Парады дае кандыдат медыцынскіх навук, спецыяліст па нялекавых метадах тэрапіі, аўтар 90 навуковых і 35 папулярных публікацый Павел САКАЛОЎ**

**Усё! Дзень закончаны. Клопаты засталіся ззаду. Зроблена тое, што ўдалося зрабіць. У думках размяркоўваючы справы па рабочых гадзінах заўтрашняга дня, вы адпраўляецеся спаць. Менавіта спаць. Але... штосьці перашкаджае заснуць. Напружанне рабочага дня? Адказная сустрэча, якая адбудзецца з раніцы? Незразумела. Няўжо гэта бяссонніца? Хутчэй за ўсё, не. Не варта хваляваца і адразу ж шукаць таблетку снатворнага. Магчыма, дапаможа мікрамасаж. Паспрабуем.**

## МІКРАМАСАЖ КРОПАК ЦЕЛА

Памятаеце, я пісаў аб танізуючым дзённым мікрамасажы? Сёння гаворка пойдзе аб мікрамасажы кропак снатворнага дзеяння. Тэхніка мікрамасажу дастаткова простая. Яна апісана. Але, магчыма, хтосьці з чытачоў не бачыў нашу газету ад 31 студзеня гэтага года. Для іх паўтару. Вызначыўшы месца размяшчэння патрэбнай кропкі, націсніце на яе злёгку сагнутым указальным пальцам. Паступова павялічваючы націск, дамагайцеся слабай (мінімальнай) балючасці і працягвайце масаж, робячы невялікія па амплітудзе, няхуткія хістальна-вярчальныя рухі без змяшчэння пальцаў па скуры. Па меры правядзення масажу чулівасць кропкі будзе зніжацца. У адказ на гэта трэба павялічыць сілу націскання і пашырыць амплітуду вярчальных рухаў. У ідэале ўздзеяння павінна быць спынена толькі пасля дасягнення поўнай небалючасці кропкі. Гэта не заўсёды ўдаецца за тыя некалькі хвілін, на працягу якіх можна працаваць з адной кропкай. Яўнай прыкметай незакончанасці мікрамасажу служыць рэзкі боль, што ўзнікае пры адрыве масіруючага пальца ад скуры ў канцы працэдуры. Калі такое наглядаецца, абавязкова змажце кропку якой-небудзь раздражняльнай маззю ці в'етнамскім бальзамам «Залатая зорка».

Мікрамасаж, калі ён прыносіць карысць, можна рабіць месяцамі, захоўваючы пры гэтым некаторыя ўмовы. Кожны тыдзень — дзесяць дзён рабіць двух-, трохдзённыя перапынкі, пасля гэтага змяняючы «рэцэптуру» кропак. Адны і тыя ж кропкі не могуць працаваць доўга, эфектыўнасць уздзеяння праз іх з часам зніжаецца. Вельмі важна разумець «разумнасць» свайго арганізма, яго кіруючых сістэм, якія заўсёды імкнуцца прывесці ўсе органы ў найлепшы стан. Перапынкі ў мікрамасажы патрэбны менавіта для таго, каб арганізм мог навесці парадак у сваёй гаспадарцы.

Акрамя прыводзімага анатамічнага апісання і малюнка, з якім можна звярацца, пры адшуканні кропкі карыстаюцца яшчэ і індывідуальнай мерай даўжыні — цунем. Гэта адлегласць паміж канцамі складак, якія ствараюцца пры згінанні на другой фаланзе сярэдняга пальца левай (у мужчын) і правай (у жанчын) рукі.

## КРОПКІ НА РУЦЭ

Кропка 9-1, тай-юань, знаходзіцца на далоневым баку кісці, на прамянёвазапясцевай складцы, з боку вялікага пальца ў дакладна абмежаванай ямцы паміж сухажыллямі.

Кропка 5-1, чы-цзэ, знаходзіцца ў цэнтры складкі локцевага згібу ля вонкавага (павернутага ў бок ад цела) краю сухажылля двухгаловай мышцы (біцэпса) пляча. Для яе выяўлення трэба сагнуць руку ў локці, павярнуўшы далоняй да сябе, напружыць біцэпс і другой рукой намацаць сухажылле каля локцевага сустава. Кропка асабліва эфектыўная пры актыўнай бяссонніцы, звязанай з пераўзбуджэннем.

Кропка 3-V, шао-хай, знаходзіцца ля ўнутранага (павернутага да цела) канца складкі локцевага згіба, ва ўпадзіне спераду ад унутранага бакавога выступу локцевага сустава.

## КРОПКІ НА НАЗЕ

Кропка 62-VII, шэнь-май, знаходзіцца пад вонкавай шчыкалаткай (костачкай галенастопнага сустава) ва ўпадзіне на мяжы падэшвеннай і тыльнай частак ступні, ля пярэдняга краю пятачнай косці. Можа быць таксама карысная пры зняцці галаўнога болю.

Кропка 3-XII, тайчун, знаходзіцца ва ўпадзіне паміж I і II плюсневымі касцямі, гэта значыць у шчыліне тылу ступні, якая пачынаецца ад прамежка паміж вялікім (першым) і ўказальным (другім) пальцамі нагі, на паўцуня вышэй за плюсне-фалангавыя суставы, якія злучаюць пальцы са ступнёй.

Кропка 3-IV, тай-бай, знаходзіцца на ўнутранай паверхні нагі ва ўпадзіне, размешчанай уніз і назад ад галоўкі першай плюсневай косці (костачкі вялікага пальца). Асабліва эфектыўныя пры бяссонніцы, якая выклікана кішэчным дыскамфортам.

Кропка 3-VIII, тай-сі, знаходзіцца на ўзроўні вяршыні ўнутранай шчыкалаткі, ззаду яе, у самым глыбокім месцы ўпадзіны паміж шчыкалаткай і ахілавым сухажыллем.

Кропка 7-VIII, фу-лю, знаходзіцца на задняй лініі ўнутранай паверхні нагі, вышэй верхняга краю ўнутранай шчыкалаткі на 2 цуні. Для выяўлення кропкі дастаткова падняцца ўверх па ўпадзіне, якая ідзе ўверх ад задняга краю шчыкалаткі. Асабліва эфектыўная пры спалучэнні бяссонніцы з начным потам.

Кропка 9-IV, інь-лінь-цюань, знаходзіцца на ўнутранай лініі пярэдняй паверхні нагі, ніжэй за ніжні край надкаленніка (каленнай чашачкі) на два цуні, ва ўпадзіне ў задненіжняга краю ніжняга ўнутранага выступу каленнага сустава.

Кропка 2-'II, сінь-цзянь, знаходзіцца на сярэдзіне адлегласці ад вялікага вяртлюга бедранай косці (добра прамацваецца выступ на бакавой паверхні бядра ў верхняй яго частцы) да пярэдняга выступу падуздошнай косці (касцявога выступу, які абмяжоўвае паверхню жывата збоку). У гэтым месцы лёгка выяўляецца ўпадзіна.

## КРОПКІ НА ЖЫВАЦЕ

**Усе кропкі, якія нас цікавяць, размешчаны на сярэдняй лініі жывата ніжэй пупка.**

Кропка 6-XIV, ці-хай, знаходзіцца на паўтара цуня ніжэй пупка.

Кропка 4-XIV, гуань-юань, знаходзіцца на тры цуні ніжэй пупка.

Кропка 3-XIV, чжун-цзі, знаходзіцца на чатыры цуні ніжэй пупка.

Мікрамасаж кропак цела — гэта далёка не ўсё, што я магу вам прапанаваць пры парушэнні сну. Калі ён вас чамусьці не задавальняе, пацярпіце да наступнай пятніцы і тады зможаце пазнаёміцца з яшчэ адным падыходам да здаровага і паўнацэннага сну.



## УДАКЛАДНЕННЕ

У афіцыяльнай табліцы тыражу выйгрышаў па святочнаму (8 Сакавіка) выпуску грашова-рэчавай латарэі Рэспублікі Беларусь, апублікаванай 5 сакавіка 1992 года, дапушчана недакладнасць.

Пасля серыі 001707 трэба чытаць:
— серыя 001708 нумар білета 052 выйгрыш 25 рублёў.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### 7 сакавіка

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.40.** Экран беларускага кіно. «Даруй нам, першае каханне».
**9.45.** Л. Шлег. «Загуканне вясны». Вакальна - сімфанічнае дзейства.
**10.00.** Паказвае Гродна. Мастацка-публіцыстычная праграма.
**11.00.** Тыдзень планеты.
**11.15.** Меркурый.
**12.15.** Асілак. Прамая лінія.
**13.05.** Канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча.
**13.30.** Бізнес-клуб. Сучасная жанчына і бізнес.
**14.30.** Сустрэча для вас. Наш госць — дырэктар навукова-практычнага цэнтра па разгрузачнай тэрапіі, кандыдат медыцынскіх навук Г. А. Вайтовіч. Прамая лінія.
**15.30.** Кінаэкран-92. Сакавік.
**16.50.** Дыялог. Прэс-канферэнцыя кіраўніцтва Дзяржкамчарнобыля. Прымае ўдзел намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь І. А. Кенік.
**17.35.** «Не толькі пра каханне...» Па вершах беларускіх паэтаў.
**18.00.** Процістаянне. Маральна-прававая праграма.
**19.00.** Панарама.
**19.25.** Творчыя партрэты. Народная артыстка Беларусі Наталля Гайда.
**20.25.** Калыханка.
**20.45.** Тэлебіржа.
**21.00.** «Вакзал для дваіх». Маст. фільм.
**23.15.** Рамансы М. А. Рымскага-Корсакава выконвае Н. Руднева.
**23.40.** НІКа.

**1 канал. Астанкіна**

**10.00.** Прадпрымальнік.
**10.50.** ЭХ.
**11.05.** Інстытут чалавека.
**11.45.** Музычны кіёск.
**12.15.** Пад знакам «пі».
**13.05.** «Мужчына маіх мрояў» (С. Сталяроў).
**14.00.** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.25.** Маст. фільм «Ганчар і гаршчок».
**15.55.** Чырвоны квадрат.
**16.35.** Мультфільм «Пчала Мая».
**17.00.** Песні І. Нікалаева спявае І. Алеграва.
**17.15.** «Восем дзевак — адзін я». Аўтарская праграма Эльдара Разанава.
**17.45.** «Шчаслівы выпадак».
**18.45.** Маст. фільм «Папялушка-80». (Італія). 1-я серыя.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** «Папялушка-80». 2-я серыя.
**21.40.** «Да і пасля поўначы». У перапынку (**23.00**) — Навіны.
**2.00.** Каханне з першага погляду. Дзень 1-ы.

**Канал «Расія»**

**10.00.** «Плюс адзінаццаць».
**12.00.** Пілігрым.
**13.00.** Весткі.
**13.20.** «Дом на Чыстых прудах».
**14.50.** Пецярбургскія магікане.
**15.20.** «Дэтэктыўная гісторыя пра Траццякоўскія шэдэўры».
**15.40.** Лясы.
**16.20.** М-трэст.
**16.50.** Што значыць «Іў Рашэ»? Касметыка з Францыі.
**17.15.** Мультфільм «Прыгоды Боска».
**17.45.** Парламенцкі веснік Расіі.
**18.00.** Познер і Донах'ю.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** Тэатральны раз'езд. Вера Васільева.
**20.45.** «Мадмуазель Наталі». Конкурсна-забаўляльная праграма.
**21.45.** «Бізнес МН» прадстаўляе...
**22.00.** Весткі.
**22.25.** Праграма «А».

Галоўны рэдактар
У. Б. НАРКЕВІЧ.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».*

*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў—32-04-52, 32-41-92, навін—32-15-02, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.*

ПА НУМАРУ ДЗЯЖУРЫЛІ: член рэдакцыйнай калегіі Людміла РЫЖАНКОВА, намеснік адказнага сакратара Яўген ЛЯХАЎ, старшы карэктар Вікторыя КЛЯНОВІК.

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.*

*Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.784. Індэкс 63.850.
Зак. № 48.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.05.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

КАЛІ ХОЧАШ БЫЦЬ ПРЫГОЖАЙ

## І стануць валасы прыгожымі

**ПРЫ МЫЦЦІ ВАЛАСОЎ РЭКАМЕНДУЕЦЦА НАМЫЛЬВАЦЬ ІХ ДВА РАЗЫ І СТОЛЬКІ Ж РАЗОЎ ЗМЫВАЦЬ ЧЫСТАЙ ВАДОЙ. КАЛІ ВАДА НЕДАСТАТКОВА МЯККАЯ, А ВАЛАСЫ ГУСТЫЯ І ДОЎГІЯ, ПРЫ АПОШНІМ ПРАМЫВАННІ ТРЭБА ЎЛІЦЬ У ВАДУ КРЫХУ ВОЦАТУ.**

Валасы з НАРМАЛЬНЫМ ТЛУШЧААДДЗЯЛЕННЕМ трэба мыць раз на тыдні.

ТЛУСТЫЯ ВАЛАСЫ ўжо праз тры-чатыры дні становяцца зноў масляністымі, зліпаюцца, і гэта выклікае сверб скуры. Але і ў такіх выпадках вельмі часта мыць галаву не рэкамендуецца, каб валасы не сталі ломкімі. Дастаткова штотыднёвага мыцця, але карыстацца трэба мыльнай пенай, шампунем ці вадкім мылам і вельмі гарачай вадой.

Пасля мыцця рэкамендуецца змачыць валасы моцна разбаўленым воцатам (чайная лыжка на шклянку вады) і затым выцерці іх.

У прамежках паміж мыццём галавы трэба некалькі разоў праціраць валасы разбаўленым адэкалонам (напалам з вадой) ці камфарным спіртам.

СУХІЯ ВАЛАСЫ рэкамендуецца мыць раз у 10—12 дзён, час ад часу змазваць лапуховым ці касторавым алеем. Можна прымяняць таксама сумесь вітаміна Д у алеі і іншага алею (міндальнага, персікавага, касторавага і інш.) у роўных частках. Гэту сумесь кончыкамі пацьцаў уціраюць у карані валасоў. Лішні тлушч выдаляюць, праціраючы валасы мяккім ручніком.



Ёсць і народныя сродкі для мыцця сухіх валасоў. Замест мыла бярэцца яечны жаўток, добра ўціраецца ў валасы і скуру галавы, змочваючы іх пры гэтым вадой. Праз некалькі мінут змываюць цёплай вадой.

А яшчэ такі спосаб: памыўшы галаву мылам, прамываюць валасы не вадой, а квасам (хлебным, сухарным, соладавым), не змываючы яго з валасоў.

Успацелай галаве шкодзіць халодны вецер — выклікае адміранне каранёў валасоў.

Выціраць валасы пасля мыцця трэба мяккім нагрэтым ручніком, а расчэсваць — да таго, як яны поўнасцю прасохнуць. Укладваць мокрыя валасы, як і завязваць іх ручніком, хусткай і да т. п. не рэкамендуецца.

Галаўныя шчоткі і грабяні трэба ўтрымліваць у чысціні. Для гэтага шчоткі час ад часу мыць мылам ў цёплай вадзе з дабаўленнем невялікай колькасці нашатырнага спірту, праводзячы па шчотцы грэбенем, як бы прачэсваючы яе. Такім чынам адначасова чысцяцца і шчотка, і грэбень. Пагружаць у ваду трэба толькі шчаціну, а не ўсю шчотку, інакш сапсуецца яе драўляная частка.

## Якія ў вас вусны?

**ДЛЯ ЗАХАВАННЯ СВЕЖАСЦІ ВУСНАЎ ТРЭБА САЧЫЦЬ, КАБ ЯНЫ НЕ ПЕРАСЫХАЛІ, НЕ ТРЭСКАЛІСЯ, НЕ ЛУШЧЫЛІСЯ.**

ПРЫ СУХАСЦІ вуснаў карысна змазваць іх раніцай і ўвечары якім-небудзь нейтральным тлушчам ці сумессю ланаліну, какава-алею і міндальнага алею ў роўных частках або белай губной памадай, якая звычайна ёсць у аптэках. Гліцэрына ў такіх выпадках не рэкамендуецца, бо, наадварот, выклікае сухасць.

Іншы раз у кутках рота з'яўляюцца, без усякай, здавалася б, прычыны, невялікія балючыя трэшчынкі. Гэта як быццам нязначнае скурнае пашкоджанне часцей за ўсё сведчыць аб нястачы ў арганізме вітамінаў групы В. Утрымліваюцца яны ў зялёных раслінах і збожжы, дражджах, жытнёвай муцэ, аўсяных і грэцкіх крупах, мясе, малацэ, сыры, рыбіным тлушчы. Павялічыўшы іх ужыванне, а таксама прымаючы вітамін $B_2$, можна хутка пазбавіцца ад гэтай непрыемнасці, асабліва калі трэшчыны не запушчаны. Акрамя таго, трэба змазваць іх крэмам «Дзіцячы», а затым прысыпаць белым стрэптацыдам ці борнай кіслатой у парашку.



НАВУКОВАЯ СЕНСАЦЫЯ

## Як на самай справе «ходзіць» чалавек

**Як ходзіць чалавек? Вядома як, нагамі. Між тым, насупераак гэтай, кожнаму вядомай аксіёме, вучоныя сёння ўносяць сенсацыйную папраўку: чалавек ходзіць, як будзільнік — рытм яго жыцця цыклічны і залежыць ад руху Сонца, ад фаз Месяца, ад многіх з'яў прыроды.**

**Профіль у даследчыкаў новага напрамку — хранальная біялогія, і гэта навука ўстанавіла, што ўсе органы чалавека, яго мозг, цела, душа падначальваюцца — ад нараджэння да смерці—«трохтактнаму цыклу». Тройчы ў дзень наступае прыліў і адліў фізічных сіл. Тройчы наступае стомленасць. І настрой, хочаш не хочаш, падпарадкаваны ліку тры.**

**У кожнага з нас унутры — гадзіннік, і лепш за ўсё менавіта па ім вызначаць, што рабіць цяпер, а што адкласці на потым. Так што прачытайце і зрабіце вывады:**

**Час для рамяства**
Лепшая працаздольнасць штосьці майстраваць паміж 15 і 16 гадзінамі.

**Калі знаёміцца**
Самы моцны поціск рук у чалавека паміж 9 і 10 гадзінамі.

**На прыём да ўрача**
Лепш за ўсё скура чалавека ўспрымае медыцынскія ўколы ў 9 гадзін раніцы.

**Гадзіннік для спорту**
Нашы мускулы найбольш працаздольныя ў 13.30.

**Час кахаць**
Палавы гарманальны пік у 8 гадзін раніцы.

**Калі абедаць**
Больш за ўсё страўнікавай кіслаты ствараецца ў 13 гадзін — нават калі пры гэтым чалавек нічога не есць.

**Вы захацелі выпіць...**
Печань лепш за ўсё ўспрымае алкаголь паміж 18 і 20 гадзінамі.

**Лёгка дыхаецца**
Інтэнсіўней за ўсё лёгкія дыхаюць паміж 16 і 18 гадзінамі.

**Лепшая адчувальнасць**
Найбольш поўныя смакавыя адчуванні ў чалавека, слыхавыя ўспрыманні і ўспрыманні органаў нюху — паміж 17 і 19 гадзінамі.

**Жывём-расцём**
Найбольш інтэнсіўна на працягу дня растуць у чалавека скура і пазногці паміж 16 і 18 гадзінамі.

**Лепшы імунітэт**
Наймацней арганізм супраціўляецца інфекцыям у 22 гадзіны.

**Нараджэнне дзяцей**
Большасць дзяцей нараджаецца паміж 24 і 4 гадзінамі раніцы.

**Калі вы не павінны заставацца адны**
Найбольш востра чалавек



адчувае адзіноту паміж 20 і 22 гадзінамі.

**Спяшайцеся да касметолага**
Найлепшае ўспрыманне скурай касметычных працэдур ад 18 да 20 гадзін.

**Сляпыя гадзіны**
Горш за ўсё вадзіцелі бачаць у 2 гадзіны ночы.

**Калі абедаць у начных зменах**
Упадак працаздольнасці на вытворчасці ў начной змене ад 3 да 4 гадзін раніцы.

**Гадзіны слабасці**
Найбольш слабы крывяны ціск у чалавека паміж 4 і 5 гадзінамі раніцы.

НЕЧАКАНАЯ ПАРАДА

## Фірменная або падпольная? Як вызначыць?

**Як сцвярджаюць знаўцы, амаль кожная другая бутэлька спіртнога, што прадаецца ў Расіі, выраблена нелегальна. Ды і ў нас, асабліва з пачаткам функцыяніравання шырокай сеткі камерцыйных магазінаў, іншых «кропак», дзе можна разжыцца дарагім сэрцу напіткам, даволі частыя выпадкі, калі набытая бутэлька з «Белым буслам» альбо «армянскім трохзоркавым» аказваецца напоўненай невядома чым.**

Таму прапануем некалькі парад, як вызначыць: фальшывая перад вамі гарэлка, ці не.

У сапраўднай на этыкетцы з адваротнага боку павінен быць штамп з лічбамі і клей нанесены роўнымі паласамі. На корку ў сапраўднага прадукту — з бакоў тры характэрныя выемкі ад фабрычнага заціскання. У цэхавікоў такой адзнакі няма.

Людзі больш дасведчаныя вызначаюць паходжанне гарэлкі, плюнуўшы на ўласную далонь і пакруціўшы па ёй дном бутэлькі. Застаўся на руцэ чорны круг — ясна, што яна прайшла праз заводскі канвеер. Няма — узнікаюць сумненні. Але сапраўдныя знаўцы робяць паўлітроўкай некалькі інтэнсіўных вярчальных рухаў. У бутэльцы пры гэтым утвараецца «слуп» з паветраных бурбалачак, які ў фальшыўцы разыходзіцца хутка, а ў «манапольцы» стаіць даволі доўга. Тое ж характэрна і для каньяку.

**У сённяшнім выпуску «Хатняй энцыклапедыі» выкарыстаны матэрыялы беларускага друку, а таксама перыядычных выданняў краін СНД і замежжа.**